# РОЗГАЛАС

## І ЗНОЎ АБ РЭФЕРЭНДУМЕ

Нягледзячы на тое, што пытанне аб рэферэндуме разгледжана ўжо Вярхоўным Саветам, ставіць на ім кропку ў грамадска-палітычным жыцці рэспублікі яшчэ рана. Так, 14 лістапада ў Мінску адбудзецца пашыранае пасяджэнне ініцыятыўнай групы па рэферэндуму, на якім будзе дадзена ацэнка прынятаму Вярхоўным Саветам рашэнню аб адмове рэферэндуму, прыняты зварот у гэтай сувязі да міжнароднай грамадскасці і праведзена прэс-канферэнцыя для сродкаў масавай інфармацыі. У той жа дзень на чарговым сойме БНФ будзе разгледжана ўнутрыпалітычнае становішча на Беларусі пасля прыняцця Вярхоўным Саветам рашэння аб адмове ў правядзенні рэферэндуму, дадзена палітычная і прававая характарыстыка гэтага рашэння, а таксама вызначана стратэгія дзейнасці БНФ на бліжэйшую перспектыву.

**Зміцер ЖДАНЮК.**

## ГРУПА РЫЗЫКІ — УСЁ ЧАЛАВЕЦТВА




Сусветная арганізацыя здароўя штогод 1 снежня праводзіць Сусветны дзень прафілактыкі СНІД, які шырока адзначаецца ў большасці краін свету. З году ў год маштабы гэтага мерапрыемства ў нашай рэспубліцы пашыраюцца: калі яшчэ некалькі гадоў назад правядзеннем гэтага дня займалася адно Міністэрства аховы здароўя, то ў апошнія гады нельга не адзначыць удзелу ўсё новых міністэрстваў, ведамстваў, устаноў, арганізацый, у тым ліку грамадскіх.

У рамках Сусветнага дня прафілактыкі СНІД Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІД разам з шэрагам творчых калектываў рэспублікі, а таксама іх калегамі з Расіі і Украіны, якія адгукнуліся на заклік, з 23.11 по 2.12.92 г. правядуць дабрачынную акцыю «Дзеячы культуры і мастацтва супраць СНІД».

Мэта акцыі — паказаць, што праблема СНІД не толькі і не столькі медыцынская, гэта праблема ўсяго грамадства; праз культуру і мастацтва прабіцца да свядомасці кожнага, растлумачыць, што мы стаім на парозе вялікай трагедыі, што можам страціць усё, у тым ліку і тое творчае багацце і спадчыну, якія дзеячы культуры і мастацтва выносяць на гэту дабрачынную акцыю. Увесь свет ужо даўно ўсвядоміў, што ў СНІД ужо няма строга акрэсленых груп рызыкі — групай рызыкі з'яўляецца ўсё чалавецтва.

## Гарэлкай бак не заправіш. І ўсё ж...

Адышлі ў нябыт тыя залатыя часы, калі вадзіцель па даўно ўсталяванай добрай традыцыі без грошай выручаў калегу, які застаўся ў дарозе без гаручага.

Высокія цэны на бензін і салярку прымусілі сёння засвоіць новыя жыццёвыя правілы: хочаш атрымаць паліва — станавіся ля абочыны, а побач стаў дзве-тры бутэлькі гарэлкі.

І міжвольна прыходзіцца няшчасным аўтааматарам прасіць паратунку з моцнымі напіткамі ў руках. Хоць апошнія таксама не проста здабыць.

**Анатоль РАМАНОВІЧ.**

## «Улоў» на лясных дарогах. За 4 дні—47 мільёнаў

Такі багаты ўлоў у рамках аперацыі «Граніца» дастаўся супрацоўнікам віцебскай міліцыі. Яны перакрылі некаторыя таемныя сцяжынкі, лясныя дарогі. Напрыклад, у Пастаўскім раёне была затрымана аўтамашына «Масквіч-2141», на якой жыхар Літвы спрабаваў вывезці электратавары на суму 95 тысяч рублёў.

Тут жа, на граніцы, затрымана аўтамашына, што належала аднаму з ВА Рыгі, на якой імкнуліся вывезці 15 тысяч метраў ізаляванага меднага і 54 тысячы метраў нікелевага дроту на агульную суму 6 мільёнаў 900 тысяч рублёў. Як звычайна, дакументаў, якія дазваляюць вываз дэфіцытнай прадукцыі, не было. Усяго ў гэтыя дні было выяўлена 819 фактаў незаконнага вывазу каляровых металаў, прамтавараў, прадуктаў харчавання.

**Уладзімір ШЫК. (РІД).**

## РЭКЕТ НЕ ПЕРАШКОДА

Сярод гандлёвых маршрутаў беларускіх «карабейнікаў» Румынія не карыстаецца вялікай папулярнасцю: бедная краіна, гарыстая і галодная. Шмат крадуць. У крамах няма хлеба, адзення, тавараў гаспадарчага ўжытку. Таму тыя, хто мае якія старыя рэчы і адзенне, вязуць іх пераважна ў Румынію, абменьваюць на скураныя вырабы, драўляныя сувеніры і іншае. Зрэшты, выбар невялікі.

Цяпер, калі граніца з Малдовай адкрыта, малдаўскі і чарнавіцкі рэкет аблюбавалі сабе тут поле дзейнасці — патрабуюць з «савецкіх» турыстаў плату ў валюце.

Звычайна нашы турысты не супраціўляюцца, тым больш, што банды рэкеціраў цяпер, пасля вайны ў Прыднястроўі, узброеныя. Але нядаўні аўтобусны вояж турыстаў з Мінска завяршыўся на дзіва ўдала. Калі на іх напалі малдаўскія рэкеціры, у мінскай групе знайшлася жанчына, якая валодала румынскай мовай. Яна звярнулася па дапамогу ў паліцэйскі ўчастак горада Сучавы. Паліцыя, на здзіўленне нашых турыстаў, адгукнулася, арыштавала тых рэкеціраў і адправіла ў Малдову.

На зваротнай дарозе ніхто мінскі аўтобус не спыняў.

**Валянцін ГАБУДА.**



Англійскага балетмайстра Джэйн НОЛАН у Беларусі ведала толькі вузкае кола аматараў і прафесіяналаў. Але цяпер з яе творчасцю зможа пазнаёміцца кожны прыхільнік аперэты. Джэйн Нолан дапамагла калектыву Дзяржаўнага тэатра музкамедыі здзейсніць пастаноўку вядомага амерыканскага мюзікла «Хэло, Долі!» Калектыў тэатра не памыліўся, калі вырашыў запрасіць да сябе майстра англійскай сцэны: новая пастаноўка мінчан адразу была прызнана адной з лепшых у рэпертуары.

НА ЗДЫМКУ: Д. НОЛАН у час рэпетыцыі з заслужаным артыстам Беларусі Г. КАЗЛОВЫМ.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ:

### ЗАБОЙСТВЫ

| | 1991 год | 1992 год | 1992 год у працэнтах да 1991 года |
|---|---|---|---|
| Рэспубліка Беларусь | 418 чалавек | 586 чалавек | 140,2 |
| вобласці: | | | |
| Брэсцкая | 54 | 53 | 98,1 |
| Віцебская | 65 | 111 | 170,8 |
| Гомельская | 68 | 82 | 120,6 |
| Гродзенская | 41 | 89 | 217,1 |
| горад Мінск | 70 | 82 | 117,1 |
| Мінская | 41 | 77 | 187,8 |
| Магілёўская | 79 | 92 | 116,5 |

Відавочна, што ў параўнанні з мінулым годам крымінагеннае становішча на пераважнай большасці тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, за выключэннем Брэсцкай вобласці, значна пагоршылася, а ў Гродзенскай вобласці нават дасягнула катастрафічнага прыросту больш чым на 100 працэнтаў (у цэлым па рэспубліцы колькасць забойстваў павялічылася больш чым на 40 працэнтаў).

## КАЛІ МЕДЫК МЕДЫКУ СЯБРА...

Рэспубліканскі спецыялізаваны дыспансер НДІ радыяцыйнай медыцыны арганізоўвае поўнае медыцынскае абследаванне работнікаў аховы здароўя чарнобыльскай зоны. Акрамя таго, медыкі з забруджаных раёнаў змогуць атрымаць у сталічных спецыялістаў кансультацыі па метадах лячэння, якія, як і абследаванне, будуць праводзіцца бясплатна. Гэта аздараўленчае мерапрыемства стане магчымым дзякуючы пагадненню Міністэрства аховы здароўя Беларусі і Рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў аховы здароўя.

**Таццяна ШЧЭБЕТ. (БелаПАН).**



ПАДАРОЖЖЫ «ЗВЯЗДЫ»

# КАМУ Ў БЕЛЬГІІ ЖЫЦЬ ДОБРА...



БЕЛЬГІЯ. Уся Еўропа называе гэту краіну сваёй гасцінай. А яна і сапраўды такая. Паўночнае ўзбярэжжа Бельгіі лашчыць сваімі водамі Паўночнае мора, у якое нясуць свае патокі праліва Ла-Манш і Па-дэ-Кале. Так, менавіта тут пачынаецца наш, еўрапейскі кантынент — наколькі вялікі і багаты, настолькі і цесны і шматпакутны...

Што ж, гасціная дык гасціная. Але ж што мы ведаем пра Бельгію? Яшчэ зусім нядаўна— гады тры назад, нам сцвярджалі (а мы, натуральна ж, верылі), што гэта — сапраўднае «асінае гняздо»... Падставай таму для былых савецкіх ідэолагаў і «асветнікаў» быў найперш факт знаходжання ў Брuселі — сталіцы Бельгіі — цэнтра ваеннага блока НАТО, які, як вядома, супрацьстаяў «нашаму» Варшаўскаму Дагавору.

А што, уласна кажучы, заставалася рабіць нам, не толькі адурманеным партыйна-манапольнай дэмагогіяй, патрэбнай і выгаднай колам кіруючай наменклатуры, але і не маючым практычна ніякага шанцу пабываць у тым «асіным гняздзе», на свае вочы пабачыць, уласным розумам ацаніць і жыццёбыццё бельгійцаў, і пачуць ад іх саміх непасрэдна праўду аб сітуацыі ў краіне...

І вось такая нагода надарылася...

### «УВАГА! У КРАІНЕ — РУСКІЯ...»

Да нямецка-бельгійскай граніцы наш аўтобус — вельмі і вельмі многа пабачыўшы на сваім вяку ЛАЗ «Турыст» — падкаціў акурат апоўдні. На хвілінку-другую выйшаў да пагранічнікаў і таможнікаў вадзіцель—звяраць жа нашы дакументы, «аглядаць» маёмасць тут нават і не паімкнуліся... Нас гасцінна запрасілі ў Бельгію!

Проста і незвычайна? Так. Аднак сюрпрыз нам гасцінныя бельгійцы ўсё ж паднеслі. У той момант, калі мы ўехалі ў краіну, па нацыянальнаму радыё трансліравалі канцэрт класічнай музыкі. Перадачу, аднак, перапынілі, і дыктар на ўсю Бельгію аб'явіў: «Нямецка-бельгійскую граніцу перасек аўтобус з Беларусі. У нас у краіне — рускія...»

Тое, што нас па больш чым сямідзесяцігадовай «завядзёнцы» назвалі «рускімі», мы, вядома ж, стрывалі: як кажуць, не было б большай бяды... А вось што азначала гэта аб'ява наогул? Няўжо мы і цяпер для далёкага замежжа — «мядзведзі»?... А, можа, наадварот, нас пачынаюць лічыць людзьмі — роўнымі сярод роўных?...

На шчасце, ужо самыя першыя хвіліны знаёмства з бельгійцамі цвёрда і непахісна пераканалі нас у апошнім. Людзі ўсё ж мы, чалавекі!

Гэта маленькая, утульная і ветлівая краіна (насельніцтва яе крыху больш 11 мільёнаў чалавек, плошча — у сем разоў меншая за Беларусь — усяго толькі 30,5 тысячы квадратных кіламетраў) жыве сваім жыццём: паўнакроўным, рознабаковым, багатым. У сваіх дзеяннях і паступках бельгійцы дазваляюць сабе шмат рызыкі, фантазіі, гнуткасці, творчасці... Краіна ўвогуле не баіцца ўдарыць тварам у гразь, згубіць у кагосьці давер ці сваё рэнаме наогул. У нас, беларусах (а мы ўсё ж змаглі пераканаць тых, з кім сустракаліся, што ніякія мы не рускія, а **беларусы** — самастойны і суверэнны, цывілізаваны і **асаблівы** ў сваёй гісторыі народ), ім спадабалася наша памяркоўнасць, шчырасць, узважанасць... Тое ж, прынамсі, што і нам у бельгійцах.

Вялікая канцэнтрацыя ў краіне міжнародных сувязей і кантактаў (нагадаю, што, акрамя штаб-кватэры НАТО, тут знаходзяцца і штаб-кватэра ЕЭС, цэнтры дзесяткаў іншых міжнародных, еўрапейскіх і рэгіянальных арганізацый, устаноў, банкаў, канцэрнаў, фірм) спрыяе моцнай палітызацыі насельніцтва. Бельгійца хлебам не кармі, а пагавары з ім аб падзеях у свеце, тваёй краіне... «Кожны трэці з нас з'яўляецца кіраўніком нейкай партыі», — так жартам тлумачаць яны сваю цікаўнасць. А калі ўжо нехта з іх саміх пачне расказваць — выкладзе ўсё, што ведае, выкажа прагноз, падзеліцца развагамі і меркаваннямі...

Яны — за развіццё ўсемагчымых сувязей, за каардынацыю дзеянняў ва ўсіх сферах, салідарнасць ва ўзаемаадносінах... Мы ж, дарэчы, таксама за гэта. За сувязі, каардынацыю, салідарнасць — усіх краін, усіх народаў. У тым ліку і такіх, як Бельгія і Беларусь. І як хочацца яшчэ хоць бы адзін раз сустрэцца з гэтымі людзьмі!...

### АД УНІТАРНАСЦІ — ДА ФЕДЭРАЦЫІ

Два гады назад Каралеўства Бельгія перастала быць унітарнай дзяржавай. У краіне паступова завяршыўся пераход да федэратыўнай формы кіравання. Бельгійцы, дарэчы, святкавалі гэту падзею шырока і ўрачыста: для іх яна стала ў гісторыі другой па значнасці—пасля аб'яўлення Бельгіі незалежнай дзяржавай яшчэ ў 1830 годзе.

Палітычная гісторыя Бельгіі пішацца не так, як у нас. Яна ствараецца па аб'ектыўных законах развіцця чалавечай цывілізацыі. На працягу многіх стагоддзяў свайго існавання бельгійцы не «зрабілі» галоўнага — не натварылі палітычных глупстваў. У прыватнасці, не паддаліся «бессмяротнаму» вучэнню сваіх суседзяў — Маркса і Энгельса, каб потым не пачаць занава «перапісваць» тую гісторыю...

Яны жывуць — і ўсё тут!

Так, былі і тут складанасці, супярэчнасці, жыццёвыя праблемы і пытанні (ёсць яны, прынамсі, і зараз). Скажам, у тых жа міжнацыянальных адносінах. Як вядома, краіна населена ў асноўным прадстаўнікамі двух народаў — фламандцамі і валонамі. Першыя (а іх звыш 5,5 мільёна) жывуць на поўначы, іх мова належыць да германскай групы і вельмі блізкая да галандскай. Роднай жа мовай валонаў з'яўляецца французская, а саміх іх — каля 3 з палавінай мільёнаў. Крыху больш чым 1 мільён брусельцаў размаўляюць на французскай мове. А на ўсходзе Бельгіі каля 100 тысяч жыхароў лічаць роднай нямецкую. Здаецца, не такая ўжо і вялікая стракатасць... Аднак праблема, так бы мовіць, была.

Дзесьці ў сярэдзіне мінулага стагоддзя арыстакратыя, буйная буржуазія і чыноўніцтва, маючы фламандскае паходжанне, гаварыла... па-французску: так было модна і прэстыжна. Толькі ў 1898 годзе фламандская мова прызнаецца другой дзяржаўнай. Амаль паўстагоддзя мір і спакой нібыта і панавалі, але гэта быў хутчэй прывід, чым рэальнасць. Неўзабаве пасля другой сусветнай вайны адносіны паміж Валоніяй і Фландрыяй зноў абвастрыліся. Цэнтр палітычнага, а ў большай меры—эканамічнага жыцця перамяшчаецца ў Фландрыю і горад Брусель. Раз за разам успыхваюць мітынгі і дэманстрацыі, забастоўкі і нават бойкі — з удзелам дзесяткаў тысяч чалавек з кожнага з бакоў...

Кіраўніцтва Бельгіі разумела: з такога становішча выйсце шукаць проста неабходна. Юрысты, палітыкі, журналісты пачалі дасканалае вывучэнне вопыту суседзяў — Швейцарыі, Федэратыўнай Рэспублікі Германіі і іншых краін, у якіх федэратыўная форма кіравання дазваляла з поспехам вырашаць міжнацыянальныя праблемы. Больш таго—і сёння бельгійцы гэта не ўтойваюць—была грунтоўна вывучана і творча прыменена да іхняй рэальнасці нават... Канстытуцыя СССР, якую мы зараз ахайваем і ганім як толькі можам...

Што ж уяўляе сабой цяперашняя Бельгійская Федэрацыя?

У краіне афіцыйна ўзаконена існаванне трох раўнапраўных лінгвістычных абшчын: фламандскай, франкамоўнай (франкафоны) і нямецкамоўнай. Бельгія падзелена на чатыры рэгіёны: Валонія, Фландрыя, Брусель і раён нямецкамоўнага насельніцтва.

Пераходзячы ад унітарнай дзяржаўнасці да федэратыўнай, цэнтральны ўрад паступова, на працягу больш чым дзесяці гадоў, перадаваў кіраўніцтву рэгіёнаў уладу і паўнамоцтвы. Культура і асвета, ахова здароўя і спорт плюс шырокі абсяг эканамічных і сацыяльных пытанняў — сельская гаспадарка, транспарт, энергетыка, падрыхтоўка кадраў, навука, ахова навакольнага асяроддзя — усё гэта перададзена ў падпарадкаванне рэгіёнаў і абшчын. Цэнтральны ж урад пакінуў за сабой сферы фінансавай і валютнай палітыкі, знешніх зносін, абароны, бяспекі...

Такім чынам, практычна поўная самастойнасць і незалежнасць. Кожная абшчына і рэгіён маюць сёння ўласны бюджэт, права выхаду на міжнародную арэну. Два гады, што мінулі з моманту рэарганізацыі ўлады, засведчылі галоўнае: перанясенне цэнтра цяжару ў эканамічным, сацыяльным, культурным жыцці непасрэдна на месцы, у нацыянальныя абшчыны дазволіла бельгійцам аднавіць атмасферу дабразычлівасці, павагі, нацыянальнай роўнасці паміж народамі, якія насяляюць краіну.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

(Заканчэнне будзе.)

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# Гандлёвы гамбіт-2: рэваншу не адбылося

21 кастрычніка ў «Звяздзе» быў надрукаваны артыкул пад назвай «Гандлёвы гамбіт». Сэнс яго быў, калі ў двух словах, такі: аднойчы магазін № 28 Фрунзенскага райхарчгандлю быў добра правераны работнікамі міліцыі. Скончылася гэта для часткі калектыву магазіна даволі сумна. Дырэктар Таццяна Глазунова па прыгавору Фрунзенскага райсуда атрымала тры з паловай гады папраўчых работ. Усё гэта, нагадаем, за тое, што Таццяна Глазунова з пачатку студзеня да сярэдзіны красавіка гэтага года з дапамогай сваіх падначаленых (у тым ліку і Прыходзькі) прадала са складаў магазіна нейкаму Віктару Грыгарану 100 кг цукру, 240 кг масла, 800 бутэлек гарэлкі і 60 бутэлек шампанскага. А Прыходзька і Сапешка ўталі ад пераацэнкі 120 бутэлек гарэлкі, збіраючыся на розніцы паміж старой і новай цэнамі атрымаць 4.200 рублёў.

Прыгавор раённага суда на момант публікацыі артыкула ў законную сілу яшчэ не ўступіў, бо Глазунова, Прыходзька і Сапешка падалі касацыйныя скаргі ў Мінскі гарадскі суд. Вось я і паспрабаваў зрабіць свой прагноз далейшага развіцця падзей.

Атрымаліся два варыянты: альбо прыгавор будзе пакінуты без змянення, альбо Глазунову адпусцяць дахаты, замяніўшы пакаранне на ўмоўнае. Апошняе, як я тады заўважыў, не выключана, бо Таццяна Ільінічна — жанчына сур'ёзная, з вялікімі сувязямі, у тым ліку і ў судовай сферы.

Артыкул гэты меў некаторы рэзананс, асабліва яго апошняя частка, дзе згадвалася пра знаёмствы Глазуновай. Сёй-той з судовых работнікаў нават пакрыўдзіўся. Дарэмна, лічу.

У самім факце знаёмства кагосьці з кімсьці няма ніякага «крыміналу». І няма такога закона, які забараняў бы прадстаўнікам судовай улады падтрымліваць прыяцельскія адносіны з работнікамі гандлю. І наогул, мы, здаецца, ужо адышлі ад тых нормаў і правілаў, згодна з якімі трэба рабіць аргвывады па фактах непажаданых сувязей (вунь, нават народнага дэпутата Беларусі і галоўнага каардынатара па справах Садружнасці Івана Каратчэню быццам запрыкмецілі не ў той кампаніі). Так, Глазунова мела знаёмствы з досыць уплывовымі людзьмі. І моцна на іх спадзявалася. Але гэта яе праблемы. Са спадзяванняў Таццяны Ільінічны зусім не вынікае, што нехта ў яе інтарэсах абавязкова будзе злоўжываць сваім службовым становішчам і «цісну́ць» на суд.

6 лістапада справа па касацыйнай скарзе Глазуновай, Прыходзькі і Сапешкі разглядалася ў Мінскім гарадскім судзе.

Заўважу адразу: адвакаты Глазуновай і Сапешкі (Прыходзька вырашыла абысціся ўласнымі сіламі) падрыхтаваліся выдатна. З іх гарачых прамоў пераканаўча вынікала, што іх падапечных неабходна калі не ўзнагародзіць, дык хоць адпусціць з мірам, адмяніўшы празмерна суровы прыгавор Фрунзенскага райсуда. Я далёкі ад таго, каб кідаць камяні ў адвакатаў. Каб абурана крычаць: «Як вам не сорамна, пан адвакат, злачынцаў абараняць?! Як вы можаце?! Ці савецкі вы чалавек!?» Вядома, абарона інтарэсаў кліента павінна ў адваката быць на першым месцы, інакш яму няма чаго рабіць у сферы адвакацкай дзейнасці. Аднак некаторыя найбольш уражальныя адвакацкія довады, не ўстрымаюся, прывяду.

Па-першае, адвакат Таццяны Ільінічны назваў яе немаладой жанчынай, якой ужо пяты дзесятак. З лепшых памкненняў, вядома, каб выклікаць да яе спачуванне суда. Напэўна, каб Глазунова, дагледжаная маладжавая саракагадовая жанчына, пачула гэтыя словы, наўрад ці падзякавала б за іх свайму абаронцу.

Потым было аб'яўлена, што Глазунова згаджаецца прызнаць за сабой продаж «налева» толькі 100 кг масла і, няхай ужо, не супраць прыняць за гэта якое-небудзь не вельмі жорсткае пакаранне.

Прабачце, а хто тады ашчаслівіў Грыгарана дваццаццю скрынкамі гарэлкі і 60 бутэлькамі «Савецкага шампанскага»? А Прыходзька!

І адвакат пачынае «тапіць» прадаўшчыцу. Лагічны ланцужок ён выстройвае, як яму здаецца, бездакорны. Значыцца так: Прыходзька — прадавец вінна-гарэлачнага аддзела. Аддзел мае асобны ўваход. У гэтым уваходзе маюцца дзверы. А дзверы маюць уласцівасць замыкацца. Сочыце за думкай? Такім чынам вынікае, што за зачыненымі дзвярамі прадавец Прыходзька, схаваўшыся ад дырэктара Глазуновай, магла на сваю рызыку атаварваць каго лічыла патрэбным і ў якой хацела колькасці. У тым ліку і Грыгарана.

Падчас следства Прыходзька расказала, што калі па другім разе пускала ў абарот скрыстаныя талоны на гарэлку, дык кожны талон купляла ў Глазуновай. Спачатку за чатыры рублі, потым за дзесяць. Такі быў устаноўлены парадак. Прыходзька на гэтай аперацыі асабліва не губляла, бо камерцыйная цана пляшкі гарэлкі заўсёды была вышэй за дзяржцану прыкладна ўдвая. Але не ў гэтым сутнасць справы. Сутнасць у тым, што, хоць прадавец Прыходзька і аперыравала ўвесь час талонамі, распараджалася імі дырэктар Глазунова, і кожны быў у яе на ўліку. А тут — дваццаць скрынак гарэлкі. Не смяшыце, пан адвакат!

І нарэшце, з адвакацкіх вуснаў прагучала фраза, якую я даўно ужо чакаў. Наконт таго, што дзеянні Глазуновай не нанеслі ўрону дзяржаве. Так, дзяржава не пацярпела— з ёю разлічыліся. Пацярпелі ўсяго толькі людзі. Тыя людзі, што душыліся ў неймаверных чэргах за сваім «законным» кілаграмам цукру, што куплялі пляшку гарэлкі за двайную цану ў спекулянтаў, што куплялі масла на грамы ў той час, калі грыгараны атаварваліся скрынкамі. І патрабаваць за гэта літасці для схопленага за руку гандляра можна толькі ў святой упэўненасці, быццам суд павінен абараняць інтарэсы толькі дзяржавы, а не яе грамадзян.

Кранальнымі былі аргументы Кацярыны Сапешкі. Яна прасіла наогул адмяніць ёй пакаранне, бо з-за забароны займаць матэрыяльна адказныя пасады яна пазбаўляецца любімай работы, а з прычыны апошняга не можа закончыць сваю ВНУ. Шкада, канешне, калі Кацярына Міхайлаўна не зможа стаць дыпламаваным спецыялістам у прафесіі, дзе ўжо дабілася такіх вялікіх поспехаў! Даведаліся суддзі і прысутныя і аб тым, што ў Кацярыны Сапешкі двое малых дзяцей і яшчэ не выплачаны пай за каапературную кватэру. Асабіста я вельмі нават шчыра спачуваю гэтай маладой жанчыне. Але ці не вынікае з яе довадаў, што выплачваць паявы ўзнос за жыллё лягчэй і хутчэй менавіта працуючы ў гандлі? Між іншым, у Кацярыны ёсць муж, таму галодная смерць ёй і дзецям не пагражае. Толькі, паколькі пра яго не згадвалася, можна зрабіць яшчэ адзін вывад: у сем'ях, дзе жонка працуе ў гандлі, муж ужо не з'яўляецца галоўным карміцелем.

Мінскі гарадскі суд пакінуў прыгавор народнага суда Фрунзенскага раёна без змяненняў. У адказ на прапанову старшынствуючага ўзяць копію рашэння адвакат Глазуновай агрызнуўся: «Сабе пакінь!» Пасля чаго ўся кампанія знялася з месцаў і накіравалася да дзвярэй. У калідоры яны яшчэ доўга аб нечым гутарылі — магчыма, распрацоўвалі пытанні далейшай стратэгіі. Цяпер яны могуць абскардзіць прысуд вышэй, ужо ў парадку нагляду. Але, пасля пройгрышу ў другой інстанцыі, шанцаў на поспех значна паменела.

Вядома, гэтыя тры жанчыны — не самыя буйныя эканамічныя злачынцы. Але яны парушылі закон і павінны за гэта адказаць. Спаўна, па закону. Мажліва, з павагі да законаў і пачынаецца парадак у грамадстве. А можа — наадварот: законы пачынаюць паважаць ва ўпарадкаваным грамадстве. Пажывём — пабачым.

**Аляксандр БЯРСУДСКІ.**

ЗА РАДКОМ ДЗЯРЖКАМСТАТА

# НА СПАЖЫВЕЦКІМ РЫНКУ ПА-РАНЕЙШАМУ БЕДНА, ЗАТОЕ «ПАЙШЛО Ў РОСТ» ПЛАДОВА-ЯГАДНАЕ

**ДЗЯРЖКАМСТАТ РЭСПУБЛІКІ ПАДВЁЎ ВЫНІКІ РАБОТЫ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ ЗА ТРЫ КВАРТАЛЫ.**

Як сведчыць ён, эканамічнае становішча рэспублікі застаецца напружаным. У параўнанні з мінулым годам недабралі 15 працэнтаў нацыянальнага даходу. Зніжаецца эфектыўнасць вытворчасці, рэнтабельнасць (у тым ліку ў сельскай гаспадарцы), тэмпы росту прыбытку ніжэйшыя за тэмпы росту аб'ёмаў вытворчасці і затрат. Калі ў першым квартале рэнтабельнасць у прамысловасці складала 41,7 працэнта, у другім — 36,6, дык у трэцім — усяго толькі 30. Тут варта нагадаць пра мяркуемае абмежаванне рэнтабельнасці «зверху» — з мэтай недапушчэння росту цэн. Яна, на жаль, зніжаецца сама, што лішні раз пацвярджае: эканоміка развіваецца па сваіх законах, а не па адміністрацыйных. Павялічыліся страты. З агульнай колькасці стратных прадпрыемстваў 124, або 26 працэнтаў, знаходзяцца ў Мінску.

Пры ўсім тым Дзяржкамстат робіць наступны вывад, з якім можна паспрачацца: «На выніку гаспадарчай дзейнасці... узмацняецца адмоўнае ўздзеянне эканамічных санкцый». Аднак, думаецца, сёння трэба больш гаварыць аб неабавязковасці многіх гаспадарчых суб'ектаў, якіх не палохаюць нават санкцыі.

Прыведзеныя Дзяржкамстатам лічбы таксама сведчаць: многія ўсё больш імкнуцца жыць у доўг: крэдыты за 9 месяцаў дасягнулі 262 мільярдаў рублёў супраць 24,4 на пачатак года і 139 — на сярэдзіну. Прычым больш паловы крэдытаў складаюць кароткатэрміновыя, г. зн. сродкі бяруцца для вырашэння бягучых пытанняў вытворчасці. Такія крэдытныя тэндэнцыі не абнадзейваюць.

У апошнія месяцы становішча ў прамысловасці некалькі палепшылася. Лепш за іншых адчуваюць сябе тыя прадпрыемствы, якія працуюць на сыравіне, матэрыялах і камплектуючых, што паступаюць да іх з рэспублікі.

У сельскай гаспадарцы сабрана 7,6 мільёна тон збожжа, або на 636 тысяч тон больш, чым летась. Тым не менш захоўваецца яго дэфіцыт у рэспубліцы, які вызначаецца прыкладна ў 4 мільёны тон. Значная частка гэтага дэфіцыту ўжо пакрыта за кошт завозу збожжа з іншых рэспублік. Менш, чым летась, атрымана льновалакна, сабрана цукровых буракоў, бульбы, на 17 працэнтаў менш нарыхтавана ўсіх відаў кармоў для жывёлы. А вось пладоў і ягад закуплена больш, чым летась, амаль удвая. Пытанне: дзе яны? Яно, напэўна, адпадзе, калі звернем увагу ўжо на такі факт: павялічылася ў 1,8 раза вытворчасць пладова-ягаднага віна. Відаць, на радасць барацьбітоў, якім толькі дай пазмагацца...

За 9 месяцаў пабудавана 30,8 тысячы кватэр. Увод жылля зменшыўся на 28 працэнтаў.

Грашовыя даходы насельніцтва ўзраслі ў 6,5 раза, у разліку на душу яны склалі за тры кварталы 19,6 тысячы рублёў. Сярэднемесячная заработная плата ў рабочых і служачых — 3.373 рублі, у тым ліку ў верасні — 5.777.

Пры адзначаным росце грашовых даходаў зводны індэкс розьнічных цэн і тарыфаў у студзені—верасні адносна адпаведнага перыяду мінулага года склаў 925,3 працэнта, г. зн. падскочыў амаль ў 9,3 раза.

І гэта, што ўжо дакладна бачна і для ўсіх зразумела, яшчэ не апошняя мяжа. Рэзка падаюць аб'ёмы вытворчасці многіх тавараў, як харчовых, так і прамысловых, адпаведна, змяншаецца іх паступленне на спажывецкі рынак. Нават ад таго адноснага насычэння яго складанымі таварамі, якое можна было бачыць летам, сёння не засталося і следу. Увогуле, у параўнанні з мінулым годам палавіна прадпрыемстваў скараціла вытворчасць тавараў. Пакуль што не бачна аддачы і ад затрат на канверсію.

Зрэшты, Дзяржкамстат сведчыць: у рэспубліцы на душу насельніцтва выраблена тавараў на 22.533 рублі, а па краінах СНД — 14.729, пры гэтым у Расіі — на 17.327, на Украіне — на 16.326, у Казахстане — на 8.412, ва Узбекістане — на 4.594. Суцешымся тым, што ў іншых горш? Праўда, будзем разам з гэтым мець на ўвазе, што, напрыклад, Расія за сваю нафту купіць тавары ў іншых, хоць бы ў нас жа, а нам трэба вырабіць тавары не толькі для сябе, але і для таго, каб купіць тую ж нафту. А тут яшчэ і цана на яе ўсё імкнецца ўверх...

